# УЛАДЗІМІР ХАДЫКА

Паэт і перакладчык Уладзімір Хадыка нарадзіўся 21 снежня 1904 г. (паводле старага стылю) ў вёсцы Цітва на Чэрвеншчыне (цяпер Пухавіцкі раён Мінскай вобласці), у мнагадзетнай сям'і ўрадніка Марціна Хадыкі. Сярод дзевяцярых дзяцей адзін з меншых па ўзросце Уладзімір аказаўся першым па ахвоце да ведаў. Раней за сяброў-аднагодкаў, яшчэ не пайшоўшы ў школу, ён пачаў чытаць, пісаць і неўзабаве сабраў нават невялікую бібліятэчку. Не спынілі вучобу ні сусветная, ні грамадзянская войны, а сярод першых настаўнікаў паэта былі заснавальнікі «Маладняка» і «Узвышша» Міхась Кудзелька (Чарот) і Язэп Плашчынскі (Пушча).

Увосень 1922 г. Уладзімір Хадыка па «камандзіроўцы» ЦВК БССР паступае вучыцца на агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Як потым успамінаў сам паэт, тут, у сталіцы, ён і пачаў пісаць вершы:

*На палянцы беленькай*
*Паясок,*
*Пад сасонкай цененькай*
*Верасок.*

*Чмарымі палоскамі*
*Маладняк*
*Будзіць адгалоскамі*
*Золак дня.*

*Пралятае раніца*
*Па гаі,*
*Дзіўная, купаецца*
*Ў ручаі.*

*Сінімі балотамі*
*Сцеле дым…*
*згіну за чаротамі*
*Маладым!..*

*Перап'юся содамі —*
*Згіну там…*
*Дарма сваю моладасць*
*Не аддам.*

Амаль праз паоўстагоддзя Варлен Бечык напіша, што менавіта тут, у Мінску, паэзія стала для У.Хадыкі “неаддзельнай часткай жыцця, яго галоўнай усёпаглынальнай страсцю, самай актыўнай формай удзелу ў жыцці”[1]. Ці думаў тады адзін са слухачоў курсаў, што ўсяго праз сем гадоў, ужо вядомым паэтам, у гэтай аўдыторыі ён будзе не слухачом, а выступоўцам — разам з Т.Кляшторным і М.Лужаніным чытаць свае вершы?

Пасля заканчэння вучобы У.Хадыка паехаў дадому. Настаўнічаў, удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці, пісаў вершы, кіраваў літаратурным гуртком і… «сакратарыў» у Дудзіцкім сельсавеце.

Восенню 1925 г. Уладзімір атрымаў даволі тоўсты канверт. Крыху хвалюючыся, раскрыў яго. Там было запрашэнне (мандат № 46 з вырашальным правам голасу) на Першы з’езд «Маладняка», які мусіў адбыцца 25—28 лістапада 1925 г. Трэба адзначыць, што «вырашальным правам голасу» быў надзелены не паэт У.Хадыка, а кіраўнік дудзіцкага літгуртка. Асобна ў канверце быў ліст ад Паўлюка Труса: «Ці не хопіць ужо сакратарыць у Дудзіцкім сельсавеце…»[2]

Ул.Хадыка вырашае ехаць у Мінск.

У кнізе «Вяртанне ў маладосць», першых на Бацькаўшчыне ўспамінах пра лёсы рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў, Станіслаў Шушкевіч пісаў: «Перад ад’ездам у Мінск Уладзімір быў прыемна ўзрадаваны. З вёскі Асакі, дзе паэт калісьці настаўнічаў, былыя вучні прыслалі яму віншаванне. На вокладцы быў намаляваны лаўровы вянок, а ўсярэдзіне яго каліграфічным почыркам выведзены чаротаўскія радкі:

*Шмат хто песні складаў пра гаротны наш край, —*
*Апявалі няволю і глум…*

*Ты, пясняр, заіграй, галасней заспявай,*
*Хай загіне адвечны наш сум…*

У 1926 г. у кніжніцы «Маладняка» выходзіць першы «выразна маладнякоўскі»[3] (А.Верабей[1]) зборнічак паэта «Суніцы»[4]. Нават у тым, нэпманаўскім годзе, калі яшчэ тое-сёе свабоднае магчыма было друкаваць, адзін крытык прадбачліва звярнуў увагу на

[1] Полымя. 1970. № 2. С. 211.
[2] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968.
[3] Верабей А. Полымя. 1985. № 1. С. 224.
[4] Хадыка У. Суніцы. Мн., 1926.

нацыяналістычныя (і ў двукоссе не ўзяць — асудзяць жа Уладзіміра Хадыку потым за нацыяналізм) настроі ў вершах пачынаючага паэта…


У. Хадыка.

Праз трыццаць гадоў дальнабачнага крытыка наконт ідэйнай якасці твораў дапоўніць Л.Салавей[2]: «На раннім этапе літаратурнай творчасці Хадыка часам аддаваў даніну паэтычнаму самалюбаванню, магчыма празмернаму ўслаўленню душэўнай замкнёнасці і самааналізу, што не магло не адбіцца на ідэйнай якасці яго першых літаратурных спроб…»[5]

Пра “класава-палітычную сутнасць” скажа-ўспомніць і А.Звонак: «Уже в начале своего творческого пути Хадыка (захоўваецца мова і арфаграфія арыгінала. — ***Л. М***.) стремился преодолеть риторичность «молодняковской» поэзии, но непонимание поэтом классово-политической сути тех процессов перестройки деревни, которые происходили в конце двадцатых и начале тридцатых годов, часто приводили поэта к архаичности, к зауми, к формалистическим вывертам, к затемненности мысли и сути поэтического образа…»[6] Цікава, як сам А.Звонак, былы вязень канцлагераў, разумеў у той час класава-палітычную сутнасць працэсаў перабудовы вёскі, або, калі расшыфраваць, узаконенае рабаванне сялян, і ці так ужо былі зацемнены думка і сэнс паэтычнага вобраза ў творах У. Хадыкі?

[5] Беларусь. 1957. № 1. С. 30.
[6] Неман. 1964. № 6. С. 64.

Інакш выхад «Суніцаў» і зборнікаў іншых маладых, якія, у адрозненне ад цяперашняга часу, выходзілі тады адзін за адным ледзь не кожны тыдзень, ацаніў Максім Гарэцкі. У першым зборніку У.Хадыкі ён вылучаў тры асноўныя матывы: радасць новага жыцця, любоў да Беларусі, яе прыроды і тужлівыя індывідуальныя перажыванні. Класік пісаў: “Лепшыя месцы ў зборніку — у вершах, напісаных пад уплывам імажынізму, але з большаю самастойнасцю... Пазнейшыя вершы У.Хадыкі вызначаюцца своеасаблівай імпрэсіяй, пэўнай настраёвасцю і адшліфаванаю формаю...”[7]

У пачатку сакавіка 1927 г. на чарговай перарэгістрацыі “Маладняка” старшынёй аб’яднання зноў выбіраецца М.Чарот, сакратаром — В.Сташэўскі. Сярод 60 сяброў аб’яднання бачым і прозвішча Уладзіміра Хадыкі. 4 красавіка таго ж года ён атрымаў сяброўскі білет № 22.



Хадыка Надзея — сястра У. Хадыкі.
Фота з атэстату аб заканчэнні МБПТ.

Сяргей Грахоўскі так апісваў знешнасць уладальніка дваццаць другога білета: «Падобных на Хадыку <...> я не сустракаў. Ён быў асаблівы, прыкметны ў любым натоўпе, запамінальны на ўсё жыццё. Вышэй сярэдняга росту, статны, мяккі ў хадзе (ішоў і крышачку спружыніў, ці нават накульгваў), з густымі, як той «снапок аўса», спелымі валасамі, бледна-ружовы твар, глыбокія сінія-сінія вочы і сакавітыя, па-дзявочы чырвоныя вусны. Як і многія тады ён хадзіў з кіёчкам, у шчыгульным, часцей чорным, касцюме, у мяккім

[7] Гарэцкі М. Маладняк за пяць гадоў. Мн., 1928.

шэрым капелюшы, у белай кашулі з крухмальным каўнерыкам. Ніколі яго не бачыў неахайным, расхлістаным, непаголеным. Яго погляд прамяніўся вясёлымі іскаркамі, а як ён звонка смяяўся ад дасціпнага жарту, ад смешнай гісторыі, і сам быў майстра расказаць нешта вясёлае («расказы» У.Хадыкі выдатна імітаваў Мікола Нікановіч. — ***Л. М***.). А калі хваляваўся і гаварыў з запалам, вусны дрыжалі і нервова перарываліся словы…» Павел Пруднікаў дапоўніў, што «Уладзімір Хадыка ніколі не рваўся на трыбуну, каб адстойваць сваю думку. На ўсё пазіраў як бы вачамі старонняга сведкі…»[8]

З вершаў Ул.Хадыкі таго часу Ніл Гілевіч асабліва вылучаў “Штандар чырвоны” (напісаны ў Навазыбкаве (Браншчына), калі паэт служыў у Чырвонай Арміі) і “Снапок аўса” і адносіў іх “да лепшых узораў інтымнай лірыкі… Першы з іх, — пісаў Н.Гілевіч, — цікавы тым, што па сваіх паэтычных асаблівасцях блізка стаіць да народнай лірычнай песні, хаця ні ў якім разе не з’яўляецца стылізацыяй пад фальклор… [У] другім <…> мы бачым шчаслівае спалучэнне грамадскага і асабістага, арганічнае і поўнае зліццё двух эмацыянальных струменяў, якія ідуць з розных вытокаў, у адзінае цэлае…”[9]:

*Мне сказала маці: выжні*
*Ты цялятам асакі…*
*Калыхаўся ціха здрыжнік*
*Ля блакітнае ракі.*

*Мне сказала маці: туга*
*Натапчы і прынясі…*
*Гаманіла неба з лугам,*
*Гаманіла з лугам сінь.*

*Маці мне сказала: ў хату*
*Ты астатняе усып…*
*Жалі ў полудзень дзяўчаты*
*Не дажатыя аўсы.*

*Па балотах і аблонях*
*Я зялёнага шукаў…*
*Сенажаці збілі коні,*

---

[8] З асабістага архіва Л. Маракова.
[9] Гілевіч Н. Акрыленыя рэвалюцыяй. Мн., 1962. С. 169—170.

*І пасохла асака.*

*Па дарозе невядомай*
*Беглі кветкі і раса…*
*І да матчынага дома*
*Я прынёс снапок аўса.*

У 1928 г. У.Хадыка пераехаў у Мінск. Жыў у прыватным пакойчыку дома № 12 па Кладбішчанскай вуліцы. Як сведчыў С.Грахоўскі, “Там, бадай, і былі напісаны ўсе ягоныя вершы”. Спачатку настаўнічаў, потым канчаткова перайшоў да літаратурнай працы, спрабаваў паступіць ва ўніверсітэт. Але неўзабаве стаў… сакратаром часопіса “Полымя”. “Амаль заўсёды ён хадзіў з вялікім партфелем на два замкі, бо ў ім пэўны час месцілася ўся рэдакцыя «Полымя», а Хадыка быў яе адзіным штатным работнікам» ( С. Грахоўскі). Адначасова паэт пачынае актыўна друкавацца ў “Маладняку”, “Звяздзе”, “Савецкай Беларусі” і, як паведамляе той жа “Маладняк”, “піша новую паэму з сялянскага жыцця»[10]. Для пацвярджэння актыўнай літаратурнай дзейнасці У.Хадыкі (і не толькі яго) у той час прывядзём некалькі ўрыўкаў з перыёдыкі:

*«Уладзімір Хадыка здаў у БДзВ зборнік вершаў «Жвір дарог».*

*«У зборнік* (перакла́даў на расійскую мову, які склаў Ю.Таўбін. — ***Л. М***.) *уваходзяць вершы: З.Астапенкі, П.Броўкі, А.Куляшова, В.Маракова, П.Труса, У.Хадыкі… Зборнік мае выдаць расійскае выдавецтва «Молодая гвардия»*[11].

Ні адзін з падрыхтаваных зборнікаў не выйшаў — заканчваўся 1929 год, апошні год беларусізацыі, пачынаўся перыяд паэтаў-ударнікаў, паэтаў-камсамольцаў, перыяд маны, паказухі, перыяд арыштаў, арыштаў, арыштаў… Перыяд ударных (і ў канцлагерах таксама) дэкадаў, гадоў, пяцігодак…

*«Менская філія БелАПП абвясціла ўдарную дэкаду па арганізацыі літаратурных гурткоў на прадпрыемствах.*

*Па папярэдняй дагаворанасці з ЦСПСБ бюро Менскай філіі БелАПП на сваім пасяджэнні 8 кастрычніка 1930 г. размеркавала ўсіх сваіх пісьменнікаў для арганізацыі на нашых прадпрыемствах літаратурных гурткоў і практычнай работы ў іх, наступным чынам: <…> Эльвод: Галавач, Таўбін, Хадыка…»*[12]

---

[10] Маладняк. 1929. № 7. Раздзел «Хроніка».
[11] Маладняк. 1929. № 10.
[12] Маладняк. 1930. № 10.

Пра вершы У.Хадыкі таго часу Рыгор Бярозкін пісаў: «Перасыпаныя дыялектызмамі, туманна і хаатычна пабудаваныя, зашыфраваныя іроніяй, Хадыкавы творы <…> сведчылі перш за ўсё аб ідэйным крызісе паэта: ён не разглядзеў за «круцізной», за накладнымі выдаткамі калектывізм, яго агромністае гістарычнае значэнне для мільёнаў сялянскіх мас…»[13]

Безумоўна, калектывізацыя мела «агромністае гістарычнае значэнне», бо знішчыла гэтыя «мільёны сялянскіх мас».

Але хлопцы былі маладыя, і, нягледзячы на цяжкі час, у іх жыцці знаходзілася месца і жарту. Вось як згадвае адзін такі выпадак С.Шушкевіч:

*«У вялікім пакоі Дома пісьменнікаў заўсёды было людна. Збіралася сюды большай часткаю літаратурная моладзь. І ў гэты дзень расселіся на канапах Змітрок Астапенка і Максім Лужанін, Уладзімір Хадыка і Сцяпан Ліхадзіеўскі, Валерый Маракоў і Юлі Таўбін. <…> У.Хадыка <…> падміргнуў Лужаніну і Ліхадзіеўскаму і дастаў з кішэні блакнот.*

*— Пакуль Юлі чытае, дык мы на яго створым пародыю. Максім, першы радок за табой!*

*Таўбін любіў ужываць словы-абрыўкі, ягоныя вершы часамі стракацелі іншамоўнымі слоўцамі. Пародыя-маланка адлюстравала гэтую рысу творчасці Таўбіна. Яна праз некалькі хвілін выцягнулася ў доўгі вершаваны слупок. Калі Таўбін западозрыў, што справа датычыць яго, ён аглянуўся і добразычліва ўсміхнуўся. Тады Уладзімір Хадыка прачытаў уголас <…>:*

*Снег выпаў і растаў…*
*Прыходзіць Юлі Та…*
*І Куляшоў Арка…*
*Запеў «пракляццем ка»…*
*Паперай непатрэ…*
*Набітыя партфэ…*
*І я ў сваім дварэ*
*Ні «бэ», ні «мэ», а «фэ».*
*І я цяпер, сябры,*
*Пішу сваю «Таўры»… («Таўрыду»)*
*Выконваю «Экза»… (назва нізкі вершаў «Экзамен»)*
*І галасую за*
*Літаратуру пра-*

[13] Маладосць. 1964. № 12. С. 116.

*Летарскага нутра.*
*Ура! Сябры, ура!*
*Свае я клясы кля… (клясык)*
*Яе працую для,*
*Як клясык дужых клякс*
*На ўвесь свой дужы бас:*
*Es lebe Faterland (Няхай жыве радзіма)*
*І я — яе enfant (дзіця)*
*І Астапенку Змі (Змітраку)*
*Мяне не падкузьміць.*

*Пародыю падпісалі псеўданімам “Лухалі”: Лу(жанін), Ха(дыка), Лі(хадзіеўскі).*

*Валеры Маракоў, сакратар рэдакцыі часопіса “Чырвоная Беларусь”, забраў з сабою пародыю, і яна неўзабаве* (“Чырвоная Беларусь. 1931. № 17-18. С. 7. — ***Л. М***.) *была змешчана ў адным з чарговых нумароў часопіса”* [14].

У пачатку 1930-х г. удзельнік «Узвышша» (так паэт назваў сябе ў канцы 1936 г. на адным з допытаў у «амерыканцы», хоць Кандрат Крапіва ў «ЛіМе»[15] у тым жа годзе пісаў: «Хадыка не быў ва «Узвышшы», але ўплыў узвышшаўскай паэтыкі ён на сабе адчуваў… і цяпер яму гэта перашкаджае…»[16]) Уладзімір Хадыка разам з другім узвышэнцам Лукашом Калюгам дапамагае ўладкавацца на працу стыльрэдактара ў газету «Савецкая Беларусь» былому выпускніку «гнязда нацдэмаў» — Мінскага Белпедтэхнікума, а цяпер студэнту яшчэ адной “падазронай” навучальнай установы, — Мінскага Вышэйшага Белпедінстытута Уладзіміру Дудзіцкаму. У часопісе «Маладняк» адразу з’яўляецца наступнае паведамленне: «За адрыў ад работы БелАПП, за сістэматычныя п’янкі выключаны з БелАПП Хадыка і Шалай»[17].

Нягледзячы на «адрыў ад работы», у 1932 г. выходзяць “Выбраныя вершы” У.Хадыкі. Узвышанскі крытык Ізідар Плашчынскі пісаў:

*“Ні што іншае, як адсутнасць класавага разумення мінулага Беларусі, прыводзіць Хадыку да канстатацыі толькі нацыянальнага ўціску яе, і ён зусім не заўважае класавых супярэчнасцяў у самой Беларусі, што ў сваю чаргу прыводзіць да нацыянальнай*

[14] Полымя. 1964. № 12; Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968. С. 76.
[15] ЛіМ. 1936. 31 сак.
[16] Тамсама.
[17] Маладняк. 1931. № 1.

*абмежаванасці, да пазіцый нацыянальных дэмакратаў, якія так старанна ўслаўлялі Беларусь наогул, свядома абыходзячы класавы антаганізм унутры Беларусі”* [18].

Пра супрацьпастаўленне нацыянальнага класаваму не забыў і А.Кучар:

*“У паэтычных работах Уладзіміра Хадыкі элементы буржуазна-нацыяналістычнае ідэалогіі займелі даволі значнае месца. Яны (нацыяналістычныя элементы) выяўляліся ў абстрагаванні Беларусі (у паэзіі) ад працэсаў класавага змагання, якія на справе адбываліся ў краіне, ды выражаліся ў паэтычным паказе беларускага народа, які, нібыта, увесь ад веку і аж да цяпер пакутаваў, прыгнятаўся, што «ад веку яе, нашу родную» Беларусь, «калечыў раз’юшаны» польскі пан і жандар:*

*У балоце жабрачкай галоднаю*
*Яна памірала ад ран.*
*«Калечыў яе» і расійскі п’яны ўраднік.*

*У развагах такога характару ёсць элементы нацыяналістычных поглядаў на Беларусь, як на краіну, якая была распята крыжавым расійскім і польскім агнём, сама безабаронная, прыгнечаная.*

*У паэзіі Хадыкі вельмі часта выступае рэзкае супрацьстаўленне нацыянальнага класаваму. Элементы буржуазнага нацыяналізму праяўляюцца, і яны звязаны з усёй ідэалістычнай філасофскай і ідэйнай асновай паэзіі Хадыкі…»* [19]

Па-іншаму ўспамінаў той час у часопісе “Шыпшына” Юрка Віцьбіч:

*“У зале* (Дома пісьменніка; для агульных пасяджэнняў. — ***Л. М***.) *адбывалася якраз агульнае паседжанне, прысвечанае абгаварэнню сталінскае канстытуцыі. Адсутнічаць на такім [мерапрыемстве] не рэкамендавалася. Таму ўнізе ў рэстаране за адным з ягоных столікаў сядзелі толькі Алесь Дудар, Уладзімір Хадыка і Валеры Маракоў. Алесь Дудар незадоўга перад гэтым вярнуўся з ссылкі, якую адбываў за свой верш “Вецер з Усходу”* (А.Дудар быў высланы ў ссылку за верш «Пасеклі край наш папалам…». — ***Л. М***.). *Праз некалькі год пазней яго расстраляюць. Таксама праз некалькі год жорсткая скала на беразе Байкала раздушыць у часе выбуху савецкага катаржніка Уладзіміра*

[18] Полымя. 1932. № 1.
[19] Полымя рэвалюцыі. 1932. № 2.

*Хадыку* (12 мая 1942 г. — ***Л. М***.). *Звар'яцеў у адным з сібірскіх лагераў Валеры Маракоў* (расстраляны разам з Алесем Дударом і іншымі дваццаццю пісьменнікамі. — ***Л. М***.). *А тады яны моўчкі пілі горкае піва. Час ад часу да іх далятаeasy зверху выкрыкі Клімковіча* (неўзабаве Міхась Клімковіч стане сакратаром СП БССР. — ***Л. М***.):

*"Вялікі Сталін... Адзіная ў свеце канстытуцыя... Вялікі брацкі рускі народ...*

*Маракоў адштурхнуў убок кухаль і, працягнуўшы ўгару руку, амаль шэптам прыгадаў Блока:*

*Ты будешь доволен собой и женой,*
*Своей конституцией куцей,*
*А вот у поэта всемирный запой*
*И мало ему конституций.*

*Нечакана адчыніліся дзверы і ўвайшоў Янка Купала. Ён прыйшоў не з залы, бо на ягоным паліто яшчэ не паспелі растаць сняжынкі. Трох маладзейшых паэтаў агарнула радасць. Яны цяпер тут не адны. З імі Янка Купала. Яны сустрэлі яго з той непаўторнай цеплынёй, з якой сустракалі толькі Янку Купалу. Крыху счакаўшы, Уладзімір Хадыка звярнуўся да яго з просьбай:*

*— Дзядзька Купала, прачытайце нам што-небудзь сваё новае.*

*І Купала прачытаў першы раздзел свае новае паэмы «Над ракой Арэсай». Паэма была прысвечана будаўніцтву камуны ў Палессі і з'яўлялася спробай паэта зразумець савецкую рэчаіснасць. Тры маладзейшыя паэты ніколі яшчэ нічога не чулі больш убогага па форме і па змесце. Ім стала сумна і страшна. Ім сталася балюча за Купалу. Скончыўшы, ён запытальна паглядзеў на іх, што стараліся не глядзець яму ў вочы. Яны вельмі любілі Купалу, каб сказаць яму няпраўду. І тады ён хутка ўстаў:*

*— Дзякую за шчырасць — падняўшы руку да паверхаў, дадаў: — А там ёю захапляюцца.*

*І раптам, ужо ўзяўшыся за клямку дзвярэй, звярнуўся да Алеся Дудара, прыгадаўшы радкі з ягонага верша:*

*Ішлі людзі праз Себеж на захад,*
*Не згубіўшы, шукалі чагосьці.*
*І пад замчышчам сохнуць і чахнуць*
*Беларускія белыя косці.*

*Ніхто ніколі не бачыў, каб мужны, нягнуткі, заццяты Алесь Дудар плакаў...»*[20]

Недзе ў гэты час паэт пазнаёміўся (па ўспамінах П.Пруднікава, не абышлося і тут без А.Кучара) з буфетчыцай Дома пісьменніка Франяй Пушкарэвіч. Неўзабаве маладыя ажаніліся. Нарадзіўся сын, якога назвалі (дамаганнямі жонкі), як і бацьку, — Уладзімірам.

18 студзеня 1933 г. "ЛіМ" друкуе эпіграму Міхася Багуна на Уладзіміра Хадыку:

*Калі да ягіні*
*Прычэпіцца ярчук*
*Ды ў штроп шындзёлаў*
*Забярэцца граца,*
*Тады здаецца мне:*
*Я гвалтам закрычу*
*І закажу дзясятаму*
*За мошаст вершаў брацца.*

У радках, магчыма, мелася на ўвазе тое, што У.Хадыка пасля жаніцьбы пакінуў ТАВІЗ. Дарэчы, пра гэтую незвычайную суполку больш падрабязна можна даведацца з ліста таго ж Ю.Віцьбіча да крытыка А.Адамовіча (датаваны 5 снежня 1951 г.):

*«Вас цікавіць ТАВІЗ. Пасля расшыфроўкі атрымліваецца вельмі празаічна — Таварыства Аматараў Выпіць і Закусіць. Па сутнасці, гэта штосьці накшталт спробы арганізацыйна аформіць беларускую багему. Вынаходнікам самое назвы ёсць Міхась Багун. Гэтая назва не аднойчы прыгадвалася і ў друку, і на пасяджэннях, і ў пратаколах гэтых пасяджэнняў. У склад ТАВІЗ'у ў розныя часы або адначасна ўваходзілі Тодар Кляшторны, Уладзімір Хадыка (да жаніцьбы), Васіль Каваль, Алесь Дудар, Міхась Багун, Валерый Маракоў, Эдуард Самуйлёнак (да хваробы), Сяргей Дарожны і іншыя. Збіраліся звычайна або ў каго-небудзь на кватэры (пераважна ў Багуна), або ў 2-ой гасцініцы, калі я прыязджаў з Віцебска, або ў шашлычнай на вул. Камсамольскай, або ў маленькай піўнушцы — уніз па вуліцы Савецкай, або (у крайнім выпадку) у сутарэнні Дома пісьменніка, дзе меўся пэўны час рэстаран. У сувязі з апошнім меў непрыемнасць: у адказ на заўвагу Эдуарда Самуйлёнка — "награбок*

[20] Шыпшына. 1950. № 9.

*Аўэрбаха” — заўважыў: “А можа, паграбок Авербаха?”. У той жа дзень меў афіцыйную сустрэчу з Андрэем Александровічам, які даводзіў мне геніяльнасць Леапольда Авербаха.*

*Беларуская багема, бадай, нічым не адрознівалася ад багемаў іншых нацыянальнасцяў. Яна з’яўлялася пратэстам супраць існуючага “Пракрустава ложа”. На пасяджэннях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя “маскі”, пра якія прыгадваў Язэп Пушча. ТАВІЗ праіснаваў да самай вайны, а мне здаецца, што ён існуе і сёння”*[21].

7 кастрычніка 1933 г. на пасяджэнні калегіі часопіса «Полымя Рэвалюцыі» сумесна з актывам пісьменнікаў разглядалася нізка вершаў У.Хадыкі «Грынём».

Першым у спрэчках выступіў Якуб Колас: «У вершах ёсць шмат вельмі прыгожых строф, але ёсць цэлы шэраг строф палітычна не верных. Для шырокага круга чытачоў падаваць гэту паэму не варта…» Амаль цалкам з думкай Я.Коласа згаджаецца Аркадзь Куляшоў: «Хадыка спрабуе адрачыся ад старога, але гэта яму дрэнна ўдаецца. Абсалютна няправільная і шкодная такая ўстаноўка, якую Хадыка выказвае словамі:

*Прыду на ўздолены ўскраек,*
*Дзе многа дум і мала нас…*

Платон Галавач зазначае: «Гэтая нізка не сведчыць пра пералом у творчасці Хадыкі. Паэт яшчэ шукае дарогі…» Жорстка крытыкуе вершы паэта Кандрат Крапіва: «Хадыка пяе адходную мінуламу, але гэтая адходная працягнута сумам шкадавання… Друкаваць вершы нельга…» З падобнай жа крытыкай выступіў і Андрэй Александровіч: «Гэта евангелле XII стагоддзя з цітламі. Хадыка, як мы ведаем, быў пад вялікім уплывам нацыянал-дэмакратычных ідэй. Шкоднасці гэтых ідэй Хадыка, відаць, не зразумеў яшчэ і цяпер… Друкаваць вершы нельга…” У такім жа духу выступіў і Міхась Лынькоў: “Вершы Хадыкі гавораць аб дробнабуржуазным уяўленні нашай рэчаіснасці, пра няправільнае разуменне літаратурнага руху і яўныя нацыяналістычныя ўстаноўкі ў мове”. Вынік падвёў Зарэмбоўскі[22]: “Зразумела, што такія вершы ў

[21] Юрэвіч Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 373.
[22] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

часопіс пайсці не могуць". У адказным слове У.Хадыка зазначыў, што "лепш будзе, калі ён замест гаворак возьмецца адразу за працу..."

Улетку 1934 г. У.Хадыка стаў сябрам СП Беларусі. Магчыма, не апошнюю ролю тут адыграла рэцэнзія М.Ларчанкі[3] «Пра паэзію ў «Полымі Рэвалюцыі», якую 12 лютага таго года надрукаваў «ЛіМ»: «Уладзімір Хадыка з'яўляецца здольным паэтам-лірыкам. У мінулым яго лірыка была буржуазна-нацыяналістычнай, рэакцыйна-рамантычнай. Цяпер, пад уздзеяннем сацыялістычнай рэвалюцыі, Хадыка перабудоўвае свой творчы метад, парывае са сваёй старой лірыкай, якая замыкалася ў вузка-абмяжованае і нацыяналістычнае кола рэакцыйнага жадання і мар...»[23]

У 1935 г. выходзіць трэцяя, апошняя прыжыццёвая, кніга У.Хадыкі «Радасны будзень»[24]. У кнізе змешчаны вершы, напісаныя ў 1927—1934 г. На выхад зборніка адразу адгукнулася некалькі крытыкаў. І.Плашчынскі пісаў: «Няма нічога горшага сёння, як пакаёвы голас у паэзіі. А ў зборніку «Радасны дзень» побач з адзначанымі вершамі (дзе «адчуваецца непадзельная еднасць са светам сацыялізму) ёсць і зусім адменныя, у якіх якраз гэты пакаёвы голас чуваць, — гэта яшчэ рэшткі учарайшага дня». Алесь Кучар дадаў: «У самыя суровыя дні *нашага* змагання супраць буржуазнага нацыяналізма (напрыклад, у гады 1930—1932) Уладзімір Хадыка не толькі не дапамагаў ***нам*** (выдзелена мною. — ***Л. М***.) у барацьбе, а сам быў пад значным уплывам нацыяналістаў. І вось толькі ў гады 1934—1935 у паэта з'яўляюцца грозныя словы супраць нашых ворагаў, супраць нацыяналістаў...»[25]

Нягледзячы на «грозныя словы», у наступным 1936 г. У.Хадыку ў друку ўспамінаюць, мабыць, часцей за ўсіх, але як таго, хто не перабудаваўся. Прывядзём некалькі цытатаў.

А.Александровіч: «Усе жыццёвыя з'явы, якія адбыліся ў нашай краіне, хвалююць беларускіх паэтаў. Няма ніводнай значнай падзеі, ускалыхнуўшай нашу Радзіму, каб беларускія паэты на яе не адгукнуліся. Але гэта мала датычыць Уладзіміра Хадыкі...»[26];

П.Броўка: «У Хадыкі няма выразнай тэндэнцыйнасці ў паэзіі, скажам такой тэндэнцыі, якая пасля прачытанага твору зараз жа прымусіла б чалавека рабіць вынікі. Мне здаецца, што над гэтым і трэба яму папрацаваць»[27];

---

[23] ЛіМ. 1934. 12 лют.
[24] Хадыка У. Радасны будзень. Мн., 1935.
[25] Полымя Рэвалюцыі. 1936. № 8. С. 121.
[26] ЛіМ. 1936. 27 лют.
[27] ЛіМ. 1936. 7 сак.

П.Хатулёў: «Калі Ул.Хадыка і пашырыў кола сваіх тэм, калі ідэйна ў некаторай ступені адышоў ад нацыяналістычных настрояў, гэта не азначае, што адыход быў арганічны. Новы свет паэт яшчэ бачыць праз акуляры старой вобразнай сістэмы»[28];

С.Куніцкі: «Мы павінны гаварыць не пра тое, што ў Хадыкі не на месцы некалькі радкоў, а пра тое, што ён няправільна ў большасці твораў зборніка «Радасны будзень» успрымае рэчаіснасць, што ў большасці яго вершаў адсутнічае ясна выражаная ідэя… Паэзія Хадыкі нясе на сабе вялікі нацыянальны груз»[29];

М.Карпачоў[4]: «Хадыка… павінен… паважаць чытача, які любіць савецкую паэзію»[30]

У той час асабліва гучна пра сябе заявіў Андрэй Александровіч. Як пісаў А.Звонак: «Не было такой жыццёвай або палітычнай з'явы, на якую не адгукнуўся б Александровіч»[31]. Прывядзём урывак і з успамінаў С.Грахоўскага: «З імпэтам, на высокай аратарскай ноце гаварыў пра беларускую паэзію А.Александровіч. Ён тады хадзіў у хромавых ботах, галіфэ і гімнасцёрцы вайсковага крою, якая станавілася прыкметаю непахіснасці таго, хто меў падставы яе насіць. Ён ратаваў за мабілізуючую, аратарскую паэзію лозунга і заклікаў і ўсяляк адмаўляў «гнілую» асабістую і філасофскую лірыку. Жорстка крытыкаваў Хадыку, Дарожнага, Маракова за адрыў ад сучаснасці, паставіў у прыклад Кляшторнага, які пачаў пісаць пра дарожнае будаўніцтва. У зале стаяла недаўменная цішыня…»[32]

Рана ці позна пасля такіх выступаў цішыня павінна была наступіць і для У.Хадыкі.

У ноч з 19 на 20 лістапада 1936 г. «ў цемру завулка Даўгабродскай вуліцы (дом № 25, кватэра № 4. — ***Л. М***.) ўляцела легкавая машына. Згаслі фары. Тры ліхтарыкі асвяцілі веснічкі, а пасля сцежку да ганка драўлянага дамка. У дзверы пастукалі:

— Тут пражывае Уладзімір Марцінавіч Хадыка?

Гаспадару хаты ў далікатнай форме быў прад'яўлены ордэр на права вобыску і арышту.

— Гэта нейкая памылка. Я не зрабіў злачынства перад Радзімай…

---

[28] ЛіМ. 1936. 22 сак.
[29] ЛіМ. 1936. 28 сак.
[30] ЛіМ. 1936. 8 ліп.
[31] Звонак А. Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973.
[32] Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986.

— Мы нічога вам не парадзім. Аб гэтым вы даложыце следчаму, пракурору, суду, але не нам»[33] .

Масей Сяднёў ужо ў 1990-я г. так успомніць той жудасны час: «Кожны дзень прыносіў нечаканыя навіны… Скончыў самагубствам Чарвякоў, скончыў самагубствам Галадзед… Арыштаваны паэты Чарот, Александровіч, Хадыка, Дудар, Кляшторны, Маракоў, Звонак, арыштаваны пісьменнікі Галавач, Зарэцкі, Скрыган, Баранавых, Знаёмы, Мікуліч, Шашалевіч і г. д. Турма набівалася біткам. На допыты цягаюць дзень і ноч і б'юць…»[34].

Пасля арышту паэта з кватэры, дзе ён жыў, выгналі ягоную маці, і яна пайшла па людзях шукаць прытулку…

З пратакола вобыску Хадыкі Уладзіміра Мартынавіча (захоўваецца правапіс арыгінала):

*“При обыске изъято:*

*черновики литературных работ с 1925 по 1936 гг.*

*письма;*

*книг — 237 штук (З.Астапенка, М.Багун, С.Баранавых, М.Богданович, Ю.Вицьбич, А.Гародня, Ц.Гартны, П.Глебка, А.Гурло[5], А.Гарун[6], С.Дарожны, У.Дубовка, А.Дудар, М.Зарэцкий, Ц.Зарэчны[7], А.Звонак, В.Каваль, Т.Кляшторны, К.Крапива, М.Лужанин, Б.Микулич, В.Маракову, Я.Пушча, Я.Скрыган, Ю.Таубин, Чарнушевич, Гуринович…);*

*журналов: «Маладняк» — 33 экз., «Узвышша» — 35 экз., «Полымя» — 42 экз.”*

Арыштаваны студэнт 2-га курса БДУ К. на допыце 23 лістапада 1936 г. сведчыў:

*«Ходыко высказывал, что председатель СП Климкович — чуждый белорусской культуре человек, не разбирается в ней и губит литературу… Говорил, что он пишет в своих стихах то, что искренне чувствует, и что если эти стихи не могут сейчас попасть в печать, то придет время, когда стихи сумеют увидеть свет…»*[35]

З пратакола допытаў У.Хадыкі ад 30 снежня 1936 г., у якіх ён выказвае некаторыя свае думкі пра сучаснасць і сучаснікаў:

*“В.Ходыко:*

*1. Беларусь сможет развиваться только в союзе с Польшей и Литвой, как автономная Белорусская буржуазно-демократическая республика.*

---

[33] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968.
[34] Сяднёў М. Масеева кніга. Мн., 1994.
[35] З асабовай справы К. — студэнта другога курса БДУ.

*2. Рост белорусской культуры в СССР невозможен.*

*3. Слабую белорусскую культуру давит сильная русская.*

*4. Поручение А.Александровичу редактировать новый белорусский словарь является страшнейшей ошибкой…”*[36]

Прадоўжым вытрымку з успамінаў С.Шушкевіча: «Амаль праз год у будынку Вярхоўнага Суда БССР 3 кастрычніка 1937 года Уладзімір Хадыка, стомлены зняволеннем, стаяў перад суддзёю — старшынёй спецкалегіі Васілём Карпікам.

У.Хадыку задаецца пытанне, ці прызнае ён сябе вінаватым у прад’яўленым абвінавачанні.

Хадыка не прызнае сябе віноўным.

Адзін з членаў калегіі спасылаецца, што паэт напісаў контррэвалюцыйны твор «Пастка», і тут жа заўважае, што гэта вялікае злачынства.

Хадыка адказвае, што твор «Пастка» напісаны не ім, а яго сябрам Сымонам Баранавых, што гэта праўдзівая мастацкая аповесць…

Зноў задаюцца пытанні:

— Вы член Саюза пісьменнікаў? Хто знайшоў смеласць падпісаць вам пісьменніцкі білет?

Хадыка адказвае, што яго білет падпісаны Максімам Горкім.

Канваіры пераглянуліся паміж сабою. На твары суддзі занепакоенасць.

Суддзя загадвае падсуднаму сесці.

Неўзабаве быў прачытаны прыгавор. Уладзімір Хадыка пазбаўляецца на 10 год волі, 5 год грамадзянскіх правоў…»[37]

Пра апошнія дні Уладзіміра Хадыкі мы ведаем толькі з успамінаў Уладзіміра Клішэвіча і Аўгена Калубовіча. Першы 16 мая 1942 г. надрукаваў у «Беларускай газэце» артыкул «Памяці паэта Уладзіміра Хадыкі», дзе ёсць такое сведчанне: «12 траўня (1942 г. — ***Л. М***.) мы выйшлі на працу, — пачаў расказваць (У.Клішэвічу. — ***Л. М***.) ён (нехта М. з Гомельшчыны. — ***Л. М***.), — працавалі каля чыгункі, падрывалі скалу, а шчэбень адвозілі на тачках па трапе. Мы з ім працавалі на пару. Толькі ён паставіў яшчэ першую тачку і не паспеў адысці, як… абарваўся са скалы камень і упаў на Уладзіміра Хадыку… Ні слова не прамовіў ён. Мы кінуліся ратаваць, адвярнулі камень, але Хадыкі ўжо не стала. Толькі моцна ішла кроў з рота і носа…»[38]

---

[36] Тамсама.

[37] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968. С. ..........

[38] Беларуская газэта. 1942. 16 мая.

У вядомай кнізе А.Калубовіча «На крыжовай дарозе» чытаем такі факт: «Пра У.Хадыку ведама, што свае лагерныя вершы запісваў дробнымі літарамі на цыгарэтнай паперы і зашываў у каўнер бушлата, а Т.Лебяда завучваў свае на памяць. Першага ў 1940 годзе (1942-м. — ***Л. М***.) пры падрыве дынамітам скалы на станцыі Ерафей Паўлавіч каменная глыба ў вапняным кар'еры раздушыла насмерць. Разам з ім загінулі і яго лагерныя вершы»[39].

У 1956 г. выйшаў першы пасмяротны зборнік У.Хадыкі. Хоць Р.Бярозкін у рэцэнзіі на яго і зробіць вывад, что «жыве і паранейшаму славіць «радасны будзень» нашага часу ўсё лепшае, што стварыў цікавы і таленавіты савецкі паэт Уладзімір Хадыка»[40], але В.Бечык пра гэта выданне будзе іншай думкі: "Нават цяжка пералічыць усе выпадкі адвольных правак, скарачэнняў, пропускаў, тэкставай блытаніны...". Адзначым, што не лепшы лёс чакаў і перавыданне Хадыкавых вершаў у 1969 г., пасля выхаду якога Ф.Яфімаў[8] зрабіў таксама цікавае падагульненне ў “Немане”: «Хадыка мог бы сказать, что все его стихи о революции...»[41]

У 1957 г., відаць, у «гонар» саракагоддзя Кастрычніцкага перавароту і дваццацігоддзя крывавага 1937-га, У.Клішэвіч напісаў верш «Менская турма»[42], дзе ёсць і такія радкі:

*Далёкі Ўсход, нямы і дзікі,*
*Закрыў зямлёй шкілет Хадыкі...*

Жонка Уладзіміра Хадыкі Франя з маленькім Уладзікам у чаканні мужа дажыла да пачатку вайны. Пасля акупацыі Мінска немцы звезлі Франю з сынам у гета, і праз нейкі час тыя загінулі.

Загінулі разам з У.Хадыкам і ягоныя рукапісы. А няма рукапісаў — няма паэтаў — няма гісторыі — няма народа! Вось гэту гісторыю разам з народам ЯНЫ ўвесь час і выкарчоўваюць... Калі мячом, калі агнём...

[39] Калубовіч А. На крыжовай дарозе. Кліўленд, 1986.
[40] ЛіМ. 1956. 12 мая.
[41] Неман. 1970. № 2. С. 185.
[42] Далячынь. Саўт-Рывер, 1964.

[1] **ВЕРАБЕЙ Анатоль Леанідавіч** [н. 10.8.1950, в. Вайнілавічы Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл.], педагог, літаратурны крытык. З сям'і настаўнікаў. Скончыў БДУ (1972), аспірантуру (1977). З 1981 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР. З 1990 дацэнт БДУ.

Кр.: *БП*, т.2.

[2] **САЛАВЕЙ Леў Антонавіч** [21.10.1925, Мінск — 3.1.1988, Мінск], перакладчык, літаратуразнавец, член Саюза пісьменнікаў БССР (1954). З рабочай сям'і. У 1950 скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ, працаваў рэдактарам, з 1968 загадчыкам рэдакцыі у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. З 1972 загадчык рэдакцыі выдавецтва "Мастацкая літаратура". Пахаваны на Паўночных могілках.

[3] **ЛАРЧАНКА Міхась Рыгоравіч** [1(14).11.1907, в. Хварасцяны Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Слаўгарадскі р-н Магілёўскай вобл. — 31.7.1981, Мінск], літаратуразнавец, член Саюза пісьменнікаў БССР (1939), доктар філалагічных навук (1956), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971), узнагароджаны ордэнам, медалямі. Пахаваны на Паўночных могілках.

Кр. *ЭГБ*, т. 4; *БП*, т. 4.

[4] **КАРПАЧОЎ Марк Нічыпаравіч** [ (31.10(13.11).1905, в. Крыўск Гомельскага пав. Магілёўскай губ. — 14.3.1961, Рэчыца], літаратурны крытык. Скончыў вясковую сямігодку (1920), Гомельскі педагагічны тэхнікум (1923), БДУ (1030). Працаваў у Рэчыцкім педагагічным вучылішчы, Рагачоўскім і Баранавіцкім настаўніцкіх інстытутах. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Пасля 1951 жыў у Рэчыцы, выкладаў у ветэрынарным тэхнікуме і педвучылішчы.

Кр.: *БП*, т. 3.

[5] **ГУРЛО Алесь** [Аляксандр Кандратавіч; 19(31).1.1892, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыль Мінскай вобл. — 4.2.1938, Мінск], паэт, празаік, перакладчык, лінгвіст. У 1908 скончыў Капыльскае двухкласнае вучылішча. Публікаваўся з 1907 (газ. «Наша ніва»). У 1909 уступіў у РСДРП; удзельнічаў у выданні рукапісных час. «Заря», «Голос низа», «Вольная думка» (1910—11, Капыль). У 1912 з дапамогай Ц.Гартнага ўладкаваўся на работу на ліцейны завод «Вулкан» у Санкт-Пецярбургу. З 1914 служыў на Балтыйскім флоце. Падчас 1-й сусветнай вайны паранены. Удзельнічаў у Кастрычніцкім перавароце ў Пецярбургу на баку бальшавікоў; браў удзел у захопе Зімняга палаца. У 1919 цяжка паранены пад Казанню; камісаваны з войска як інвалід. У 1919—20 працаваў у Ніжагародскім порце. З 1921 жыў у Мінску. Працаваў у Наркамаце асветы БССР. У 1922—23 у газ. «Савецкая Беларусь». У 1920-я г. ў тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта; займаўся ў аспірантуры. У 1929—30 навуковы супрацоўнік Інстытута мовы БелАН. Браў удзел у стварэнні тэрміналагічных слоўнікаў; падрыхтаваў і выдаў слоўнік «Тэхнічная тэрміналогія» (вып. 1. Мн., 1932). Рыхтаваў слоўнік краўцоўскай мовы мяст.

Капыль і краёвы слоўнік Капыльшчыны (матэрыялы загінулі падчас 2-й сусветнай вайны). Выдаў некалькі зборнікаў вершаў; перакладаў творы рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Быў членам літаб'яднанняў «Маладняк» і «Пробліск». Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны АДПУ 24.7.1930 у Мінску па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 за «антысавецкую агітацыю, шкодніцтва» на 5 гадоў пазбаўлення волі (умоўна). У 1934 стаў членам СП БССР. Памёр ад сухотаў. Пахаваны на Вайсковых могілках Мінска. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа Г. і іншых № 20951-с з яго фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[6] **ГАРУН Алесь** [сапр.: Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; 11.3.1887, фальварак Новы Двор пад Мінскам — 20.7.1920, Кракаў], паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч. Скончыў мінскія гарадское (1897) і рамеснае (1902) вучылішчы. З 1904 далучыўся да партыі эсэраў-максімалістаў. Пачаў публікавацца з 1907 у газ. «Наша ніва». Арыштаваны 4.3.1907 у падпольнай друкарні на вул. Шырокай у Мінску, дзе ў той момант друкавалася адозва «Да ўсіх працоўных». У ліп. 1908 Віленскай судовай палатай асуджаны на ссылку і пажыццёвае пасяленне ў Сібіры. Сасланы ў Іркуцкую губ. З 1914 атрымаў права перамяшчацца па ўсёй Сібіры. Працуючы на Лене, падрыхтаваў зборнік «Матчын дар» і ў 1914 пераслаў яго ў Вільню (выйшаў у 1918). Творчасць Г. прасякнута ідэяй сацыяльнага і нацыянальнага разняволення бел. народа. Хворы на сухоты, вярнуўся ў Мінск у верас. 1917. Віцэ-старшыня Усебеларускага з'езда 1917; удзельнічаў у стварэнні БНР. Рэдагаваў газ. «Беларускі шлях», актыўна выступаў у ёй як публіцыст. У час польскай акупацыі быў членам Беларускай вайсковай камісіі. У 1920 хвароба абвастрылася. Па дарозе на курорт Закапанэ памёр у Кракаве. Яго магіла расшукана ў 1988. У 1991 пра Г. зняты дакументальна-публіцыстычны фільм «Праз сваю хату ўбачыць бацькаву».

[7] **ЗАРЭЧНЫ Цімох** [сапр.: Рублёў, 1910 — пасля 1944], празаік. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, працаваў настаўнікам. З 1944 у Польшчы. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *БП*, т. 6.

[8] **ЯФІМАЎ Фёдар Архіпавіч** [н. 5.5.1933, в. Наватроіцкае Цярноўскага р-на Варонежскай вобл., Расія], паэт, перакладчык, крытык. Член Саюза пісьменнікаў БССР (1962). З сялянскай сям'і. Скончыў Варонежскае сувораўскае ваеннае вучылішча, Чарапавецкае пяхотнае вучылішча (1953), Цэнтральныя курсы палітсаставу ў Смаленску (1957). Да мабілізацыі (1963) служыў у вайсковых часцях БВА. У 1967 завочна скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Працаваў у час. "Неман". У 1968 выключаны з партыі за выступленне супраць умяшання савецкага

кіраўніцтва ва ўнутраныя справы Чэхаславакіі. У 1970-я г. выступіў у падтрымку А.Салжаніцына.

Кр.: *БП*, т. 6.